ISSN 2424-5216
ISSN 2424-5224 (Online)

Рэдактар
доктар гістарычных навук Аляксандр Смалянчук

Рэцэнзенты:
доктар гістарычных навук Захар Шыбека, Універсітэт у Тэль-Авіве;
доктар Рымантас Мікніс, Інстытут гісторыі Літвы (Вільня);
доктар гістарычных навук Аляксандр Краўцэвіч, Варшаўскі ўніверсітэт;
доктар хабілітаваны Ганна Энгелькінг, Інстытут славістыкі
Польскай акадэміі навук (Варшава)

**Homo Historicus 2016.** Гадавік антрапалагічнай гісторыі / пад. рэд. Аляксандра Смаленчука. – Вільня: Беларускі калегіум, 2016. – 222 с.

*Homo Historicus 2016* працягвае традыцыі трох першых тамоў (2008, 2009 і 2012 гг.) з іх арыентацыяй на пашырэнне антрапалагічнага стылю мыслення ў аналізе мінулага. Большасць апублікаваных матэрыялаў датычыць феномену памяці ў самым шырокім яго разуменні.

ISSN 2424-5216
ISSN 2424-5224 (Online)

# ТРАГЕДЫЯ ХАЛАКОСТУ І ЯЕ ПРЫЧЫНЫ Ў ВУСНЫХ УСПАМІНАХ БЕЛАРУСАЎ

***Аляксандр Смалянчук***

*доктар гіст. навук (Варшава)*

**_Summary_**

Oral history studies the individual human experience and memory. It has a great potential for re-evaluating Belarusian history of the 20th century and understanding the philosophy and values of contemporary Belarusian society. The article analyzes memories and thinking of Belarusians, who witnessed and survived the German occupation during World War II, about the possible causes of the Holocaust. These reflections have discovered the power of stereotypes, including Jews' cowardice, the image of the passive victim incapable of resisting, mythical Jewish gold, the alleged tendency of Jews to cheat, and others. These stereotypes even today strongly influence mass consciousness, and call into question the myth about famous Belarusian tolerance.

У працэсе пераасэнсавання беларускай гісторыі XX ст. асаблівую ролю можа адыграць вусная гісторыя. Грунтуючыся на памяці непасрэдных удзельнікаў гістарычнага працэсу, яна дапамагае сканструяваць новае бачанне мінулага або мадыфікаваць дамінуючую версію, якая звычайна абапіраецца на аналіз пісьмовых крыніцаў. Пры гэтым вусная гісторыя ўлічвае жыццёвую перспектыву той часткі соцыума, якая часцяком застаецца па-за ўвагай даследчыкаў, што ў большасці арыентуюцца на пэўныя палітычныя, нацыянальныя або культурніцкія каштоўнасці эліты.

Гэтая "маўклівая большасць гісторыі" (Арон Гурэвіч) вартая асаблівай увагі, бо разуменне яе жыццёвых арыенціраў

або той карціны свету, якая існуе ў свядомасці гэтай большасці, спрыяе паўнаму «ачалавечванню» гісторыі і яе пераасэнсаванню з пазіцыі каштоўнасцяў «простага чалавека». Гэты працэс надзвычай важны, бо ў рэшце рэшт спрыяе больш грунтоўнаму разуменню сучаснага грамадства, разуменню нас саміх.

Адзіная дэфініцыя вуснай гісторыі ўсё яшчэ адсутнічае, але большасць навукоўцаў сярод яе асноўных кампанентаў звычайна называюць запіс інтэрв'ю з дапамогай аўдыё- і відэатэхнікі, яго архівізацыю (стварэнне гістарычнай крыніцы), аналіз атрыманых гістарычных крыніц і прэзентацыю вынікаў вуснагістарычнага даследавання[1].

Фактычна вусная гісторыя сёння выходзіць за межы гістарычнай навукі і выступае як асобны накірунак сацыяльна-гуманітарных даследаванняў, галоўным прадметам якога з'яўляецца індывідуальны жыццёвы вопыт асобнага чалавека, яго памяць[2].

Сучасныя даследчыкі вуснай гісторыі падкрэсліваюць, што цікавасць да ненапісанага абумоўленая не толькі тым, што соцыумы па розных прычынах (палітычных, рэлігійных, этычных, сацыякультурных і г. д.) не могуць пісаць, але і тым, што гэты незафіксаваны на пісьме матэрыял прынцыпова адрозніваецца ад напісанага. Адпаведна, асноўная задача вуснай гісторыі як метаду гістарычнага даследавання заключаецца ў тым, каб *"падслухаць тое, што вывучаная супольнасць не здолела альбо не пажадала пра сябе распавесці"*[3].

Відавочна, што ідэя непасрэднага кантакту вуснага гісторыка з мінулым, пра што пісаў яшчэ "класік" вуснай гісторыі Пол Томпсан[4] (1978), з'яўляецца ілюзіяй, асабліва калі размова ідзе пра рэтраспекцыю. Як заўважыў англійскі даследчык Дж. Тош, *"голас мінулага" непазбежна з'яўляецца таксама голасам сучаснага"*[5]. Яшчэ больш канкрэтна пра гэта пісаў польскі антраполаг Ян Кордыс: *"Тое, што мы называем жыццёвым досведам, падвяргаецца пастаяннай рэструктурызацыі: мы ўвесь час перапісваем гісторыю, змяняем ацэнкі дзейнасці людзей і падзеяў, якія належаць мінуламу"*[6].

Апошнім часам пашыраецца разуменне, што цэнтрам даследчай увагі вуснай гісторыі павінна быць якраз суб'ектыўнасць наратара. Італьянскі гісторык Алесандра Партэлі ў гэтай сувязі заўважыў: *"Вусныя крыніцы гавораць нам не толькі пра тое, што людзі рабілі, але і пра тое, што яны збіраліся зрабіць і што [...] яны сёння пра гэта думаюць. [...] Суб'ектыўнае ўспрыняцце падзеяў у такой самай меры ўваходзіць у сферу кампетэнцыі гісторыка, як і самі падзеі матэрыяльнага свету. Тое, ува што вераць інфарманты, таксама з'яўляецца гістарычным фактам (фактам веры), як і рэальныя падзеі"*[7].

Ён жа, адказваючы на пытанне наконт дакладнасці гэтага тыпу крыніцаў, заявіў, што *"недакладных" вусных крыніцаў не існуе, а іх асаблівасць у тым, што*

*нават тыя паведамленні, якія могуць быць прызнаныя "недакладнымі", патрабуюць гістарычнага тлумачэння. "Памылкі" наратара іншым разам даюць нам больш для разумення мінулага, чым фактычна дакладныя аповеды"*[8].

Адчуванне мінулага, якім валодае рэспандэнт, складаецца з непасрэдных уражанняў у спалучэнні з асабістым разуменнем прыроды таго сацыяльнага свету, у якім ён жыве. Мы амаль нічога не ведаем пра ролю гэтых элементаў у гістарычнай свядомасці ўжо згаданай *"маўклівай большасці"*. Аднак спосаб асіміляцыі і інтэрпрэтацыі сацыяльнымі групамі ўласнага досведу таксама з'яўляецца фактарам гістарычнага развіцця. Нельга забываць пра тое, што паводзіны людзей іншым разам вызначаюцца не іх рэальным становішчам, а часта памылковымі ўяўленнямі пра гэтае становішча. У большай ступені яны залежаць ад пэўных мадэляў паводзінаў, якія грунтуюцца на тым, што называюць "жыццёвым вопытам", і з'яўляюцца ў першую чаргу прадуктам культуры.

Сёння даследчыка вуснай гісторыі больш чым пошук фактаў займае спроба зразумець сэнс (або сэнсы), які людзі надаюць тым ці іншым фактам і які прысутнічае і часта дамінуе ў працэсе прыпамінання.

Сапраўднае багацце сэнсаў утрымліваецца ў матэрыялах экспедыцый па вуснай гісторыі, якія датычылі адлюстравання падзеяў апошняй вайны і трагедыі Халакосту ў памяці жыхароў Беларусі. Рэспандэнтамі былі жыхары беларускіх вёсак Гарадзенскай, Берасцейскай, Віцебскай і Менскай абласцей пераважна каталіцкага і праваслаўнага веравызнання, якія нарадзіліся ў першай трэці XX ст. Старэйшаму рэспандэнту было 95 гадоў, а малодшым – 70–75. Дамінавалі жанчыны, узровень адукацыі якіх звычайна абмяжоўваўся некалькімі класамі польскай ці савецкай пачатковай школы. Інтэрв'ю праводзіліся з 2006 па 2015 г. Да 2010 г. запіс успамінаў грунтаваўся на адмысловых апытальніках. Пазней дамінавала форма свабоднага аўтабіяграфічнага аповеду, а пытанні задаваліся ўжо пасля яго заканчэння. Сярод іншых гучала пытанне аб прычынах Халакосту.

Трагедыя жыдоў Беларусі прымушала суседзяў шукаць тлумачэнне таму, што адбывалася літаральна на іх вачах, вызначацца з уласным стаўленнем да масавых забойстваў і здзекаў. Трэба было знайсці сэнс і неяк прымірыцца з тым "канцом свету", у якім давялося жыць. Гэтае асэнсаванне часта грунтавалася на пэўных этнічных стэрэатыпах, а таксама на той інфармацыі, якую людзі атрымалі яшчэ да вайны або мелі магчымасць прачытаць ці пачуць падчас вайны. Нагадаю, што нацысцкая прапаганда вінаваціла жыдоў у «сусветнай сіяністкай змове», у імкненні падпарадкаваць сабе ўсе еўрапейскія народы і дасягнуць сусветнага панавання.

Таксама трэба ўлічваць і тое, што Халакост увесь пасляваенны перыяд гісторыі БССР быў забароненай тэмай. Антысемітызм пераследаваўся савецкімі законамі, але ён працягваў існаванне нават у пэўных формах дзяржаўнай ідэалогіі. Пра масавае забойства жыдоў не пісалі савецкія гісторыкі, пра гэта маўчалі школьныя падручнікі, а на сціплых помніках на месцах забойстваў звычайна фігуравалі надпісы пра тысячы забітых *"савецкіх грамадзянаў"*. У сучаснай Беларусі шматлікія прыватныя ініцыятывы па вяртанні памяці пра Халакост разыходзяцца з пазіцыяй дзяржаўных структур. Апошняя адлюстравалася, напрыклад, у школьных падручніках па гісторыі (2009–2010 гг.), дзе тэма Халакосту мінімізаваная.

Зразумела, што адказы прадстаўнікоў нежыдоўскага насельніцтва (пераважна беларусаў) на пытанні пра прычыны Халакосту ў большай ступені давалі інфармацыю пра рэспандэнтаў, чым пра жыдоў або падзеі мінулага. Гэта наогул вельмі важная рыса вуснагістарычных даследаванняў, бо, **шукаючы адказы на пытанні даследчыкаў ва ўласным жыццёвым досведзе і памяці, рэспандэнты распавядаюць пра сябе**. Асабліва шмат важнай інфармацыі для роздуму пра светапогляд беларускіх суразмоўцаў даюць якраз размовы пра «чужога» або «іншага».

У большасці выпадкаў размова пра Халакост была неад'емнай часткай аповеду пра жыццё падчас нямецкай акупацыі. Для суразмоўцаў вынішчэнне жыдоў быў адной з найбольш жахлівых падзеяў, сведкамі якой ім давялося быць.

Атмасферу агульнай трагедыі добра перадалі словы адной з рэспандэнтак, якая была сведкай трагедыі ў былым мястэчку Ленін (зараз вёска ў Жыткавіцкім раёне Гомельскай вобл.):

*– А, вобшчом, казалі жыды, наша [ … ] то вы поберэце, а ваша ніхто не поберэ [ … ] Бо не будзе кому* (жанчына, 1933 г. нар., запіс 2012 г.)[9].

Аповеды пра масавыя забойствы былі перапоўненыя спачуваннем. Многія суразмоўцы плакалі:

*– І неколі я помню [ … ] стара жыдоўка была. Да кажа: "Вот, Ленка, мы ўсе погібнемо, все, все погібнемо. А вы будзеце жыць доўго-доўго"* (жанчына, 1922, 2012);

*– Богато-богато было [жыдоў у Леніне]. Дажэ побілі і ў ямку покідалі, хто жывы, хто нежывы. Тая ямка трэслася... Казалі, шо вельмо кроў цякла із гэтых могіл [ … ] Ручэйком цекла кроў із ямы* (жанчына, 1933, 2012);

*– Ой, харошыя людзі былі [ … ] Забілі іх усіх разам з дзеткамі. Забілі іх у Налібаках. Ой, жалка! Такія харошыя былі...* (жанчына, 1921, 2011);

*– І мы хадзілі глядзець, як варушылася зямля... Сваімі вачамі бачыла. Жыуём. Расказвалі патом людзі, каторые наблюдалі хоць здалёк [ … ] Капалі яны яму*

*для сябе. А тады над етай ямай паставілі із пулямёта стралялі, і людзі валіліся. Хто, можа, дажа і не ранены быў. Хто знае, што там было?! Дык, от я бачыла гэтую жывую зямлю, як варушылася* (жанчына, 1925, 2011);

*– У поляках еврэі жылі мірно і ў рускіх мірно. А немцы кагда прыйшлі, всех еврэяў убівалі. До грама ўбівалі. Вот, в Леніно там большінство еврэі. Там могілкі, я знаю [ ... ] І роскавзвалі людзі, каторые жылі, кроў аж ішла чэрэз песок ... Столькі людзей! Там мо іх тысяча была, што лі этых еврэяў. Всех в обшчу могілу. В одной могіле погіблі* (жанчына, 1922, 2012)*;*

*– Жыдоў расстрэльвалі. Вёска была Напраснаўка [ ... ] Там адныя жыды жылі [ ... ] Эта жыдоўская была дзярэўня. Каторыя дзяржалі свае магазіны [ ... ] Гэтыя, каторыя былі багатыя, яны зналі, паўцякалі ў Маскву, а бедныя асталіся. І іх тута расстралялі. Во, як дарога ёсць із Шапялёўкі і на Міхайлавічы. [ ... ] Яны вывелі з дзярэўні ўсіх. І ноччу там ямы выкапалі і ўсіх расстралялі* (жанчына, 1931, 2004).

Звычайна вельмі эмацыйна суразмоўцы рэагавалі на пытанне пра тое, як можна было дапамагчы жыдам.

*– Вы жэ знаеце: ты ўступісся, і табе эта будзець. Ну, як? Як то заступіцца? Я сядзела о, у этым месце жыла, гляжу: у вокны глядзяць, у сарай пашлі, іскалі, думалі, можа, дзе схуваліся. А нікога тут не нашлі, дак сабралі ўсех у сарай, і тады карацельныя атряды іх пагналі. Траншэя проціtанкавая была, у тую траншэю с аўтамата, падхадзілі яны [ ... ] усе ў яму. Жалка іх было. Яны ж харошыя яврэі. Яны дажа лучша за рускага: падзеляцца з табой, пагаворюць. Дак, рускія ж бываюць усякія, а яврэі эта... Ён калі цябе нада што-та, ці аддалжыць, ці вызваліць* (жанчына, 1917, 2004).

Пры гэтым часта прысутнічала здзіўленне: чаму жыды не супраціўлялася, не спрабавалі збегчы, знайсці паратунак у лесе, у партызанаў? Зрэшты, звычайна здзіўленне суразмоўцы мела фармальны характар. Паводзіны ахвяры ўкладаліся ў стэрэатып “жыда-баязліўца”.

*– Яны ішлі на смерць як той кролік да ўдава [ ... ] У лесе ўжо ж былі партызаны [ ... ] Там быў шанс, а тут жа яўная смерць [ ... ] У нас жыдоў ганялі на працу... І хто іх ганяў? Быў такі гіцэль (гіцлі перад вайной лавілі сабак). Не памятаю яго прозвішча [ ... ] У кожным разе ён вёў жыдоў, меў нагайку. А кожны з жыдоў на галаву вышэйшы за гіцля, які іх вядзе. Ён і біў іх [ ... ] падонак...* (мужчына, 1928, 2013);

*– Еврэеў гналі. У іх быў этат, ну, как у нас бацюшко, а ў іх равін. Сам наперэдзі, і все еврэі за ім ішлі. Сказаў ім: “Всё, мы погібаем” [ ... ] Эты еврэі самі выкопалі могілы. Іх так положаць, перэстрэляюць, другіх ложаць. І потом засыпалі поліцаі* (жанчына, 1922, 2012).

Як жа рэспандэнты тлумачылі прычыны Халакосту?

Варта заўважыць, што гэтае пытанне амаль заўсёды выклікала моцнае здзіўленне рэспандэнтаў, якія заяўлялі, што не ведаюць прычынаў.

– *Я не знаю за што оні побілы тых, еврэі* (жанчына, 1916, 2006);

– *Яны самі жыдэ не зналі, за што іх білі* (жанчына, 1930, 2011).

Даводзілася настойваць, прасіць, каб прыпомнілі, напрыклад, тое, што казалі ў той час суседзі, сваякі або бацькі, ці шукаць іншага падыходу. Відавочна, што для большасці рэспандэнтаў гэтае пытанне не было тым, што мучыла і не давала спакою ў пасляваенныя гады. Для многіх яно памерла разам з жыдоўскай супольнасцю. Толькі пасля пэўных высілкаў з боку даследчыкаў гучалі адказы і разважанні адносна прычынаў Халакосту.

Першая найвялікшая група адказаў была звязаная з перакананнем суразмоўцаў, што масавае забойства нацыстамі соцень тысяч жыдоў было абумоўлена *"хітрасцю"* (як варыянт, *"розумам"*) ахвяры і яе нежаданнем працаваць:

– *Пачаму яны нацыю этую яврейскую хацелі скасаваць? Патаму што яны не работалі нікагда [ ... ] Яны ўсё спекуліравалі. Во, як цяперя, хто што. Бывала ж, прадаець адзін магазіньшчык, а [...] ніхто не йдзе. А яны прадавалі, прадавалі, к ім усё шлі [ ... ] Так іх хацелі скасуваць савсем, нацыю іх* (жанчына, 1917, 2004);

– *Оні не работалы, да оні только стараліс жыць комерчэско* (мужчына, 1924, 2006);

– *Жыд – хітры чоловік* (жанчына, 1910, 2006);

– *Бо гэта хітры народ. Не патрэбны [ ... ] Работаць ён усё роўна не будзець* (мужчына, 1930, 2007);

– *Жыды не работалі. Ашуквалі людзей* (мужчына, 1915, 2007);

– *Старые люди говорили: немцы не любят хитрых, а жид хитрейшы. Немец жида никогда не обманет* (мужчына, 1930, 2009);

– *Вольф сам казаў: "У нас закон такі, хоць на капейку, але абмануць павінен чалавека"* (мужчына, 1931, 2011);

– *Людзі гадалі: жыды такія хітрыя, як і немцы. Яны [немцы] такіх не любілі* (жанчына, 1920, 2010);

– *А што оні неку врэду робылы?* (жанчына, 1930, 2006);

– *Слухі былі, што жыд забіў нейкага там немца [ ... ] За гэта і пачалася вайна* (мужчына, 1931, 2011).

У гэтым выпадку ўласная ацэнка рэспандэнтамі жыдоў заяўляецца як пазіцыя нямецкіх акупацыйных уладаў, якія караюць *"хітрых жыдоў"*, што *"не работалы [ ... ] только стараліс жыць комерчэско"*. Тут таксама відавочная прысутнасць даўніх стэрэатыпаў. У разуменні беларускіх сялян працаваць

можна толькі на зямлі. Гандаль і рамяство – гэта не праца, гэта *“занятки”*. Адпаведна, жыды адразу ж ператвараліся ў нейкіх лайдакоў.

Магчыма, у гэтым пераносе віны на самую ахвяру адлюстравалася не да канца асэнсаванае беларускімі рэспандэнтамі жаданне неяк апраўдаць уласную пазіцыю пабочнага назіральніка, на вачах якога забівалі добрых суседзяў. Пазіцыя *“яны самыя вінаватыя”* здымала адказнасць за бяздзейнасць, дапамагала знайсці самаапраўданне.

Але вусная гісторыя таксама дапамагла заўважыць цалкам іншы аспект успрыняцця Халакосту. Аднойчы пасля шчырага спачування загінулым прагучала наступнае:

*– Ну, хто ж их знает, что бы было [ … ] с нами, славянами, если б евреев не [убілі]... Дык они ж заплодили б нас всех уже, нам нельзя было б повернуться... Так рассуждал народ* (мужчына, 1924, 2013).

Пачутае прымушае больш крытычна ставіцца да пашыранага сцвярджэння, што беларуска-жыдоўскія адносіны ў даваенны перыяд былі добрымі, што ніхто нікога не крыўдзіў, панавала ўзаемапавага і талерантнасць і г. д.

Таксама сярод названых прычынаў фігуравала асабістая непрыязь Гітлера да жыдоў або нават асабістая помста “фюрэра” за пэўныя крыўды:

*– Гэта Гітлер даў такі ўказ [забіваць жыдоў]. Казалі, што ў яго жонка, у Гітлера, была яўрэйка* (жанчына, 1924, 2011);

*– Адзін стары немец мне сказаў: калі Гітлер быў малады, то жыды яго вылегчылі* (мужчына, 1921, 2011);

*– Казалі, што жыдоўка выкалала вока Гітлеру* (жанчына, 1929, 2013);

*– Гітлер – сын жыдоўкі, якая яго кінула* (жанчына, 1932, 2013);

*– Гітлеру жыды не дазволілі ажаніцца на жыдоўцы* (жанчына, 1931, 2013);

*– Гітлер быў з беднай яўрэйскай сям’і, з яго іншыя смяяліся. Калі ён вырас, дык адпомсціў* (жанчына, 1933, 2007).

У адказах таксама прысутнічалі ўяўленні пра жыдоў як пра «пракляты народ», які нясе адказнасць за забойства Хрыста:

*– Гаварылі, а эта за то, што ані над Ісусам іздевались [ … ] Хрыстом* (жанчына, 1940, 2007);

*– Казалі, што яўрэяў забіваюць з-за Хрыста* (мужчына, 1933, 2007);

*– Ну, гэ, ліхо іх ведае, шо-то по прычыне. Все ж кажуць, шо жыды некія, гэ, Ісуса Хрыста мучылі. Да, мо то оні провініліся так. А за гэто іх так не любяць [ … ] То оні всех жыдоў позводзілі* (жанчына, 1922, 2012);

*– Все говорили, что это как им, так сказать, уже было определено терпеть это гонение. Им было, так сказать, исторически, як па-беларускі наканавана, определено пережить этой нации* (мужчына, 1924, 2013).

Як водгук антысеміцкай прапаганды ў міжваеннай Польшчы, даволі часта рэспандэнты з Заходняй Беларусі згадвалі гэтак званы “крывавы навет”. Праўда, аповеды пра тое, што жыды выкарыстоўваюць чалавечую кроў, калі на Пейсах гатуюць мацу, звычайна суправаджаліся агаворкамі, накшталт:

– *Гэтак людзі казалі, а я не ведаю, ці праўда... Бог яго ведае* (жанчына, 1921, 2011).

Аднак толькі некаторыя распавядалі пра гэта з жартам:

– *А малва ж усё ішла, ну, я то не ведаю. Кажуць, яны з хрысціянскай кроўю адгаўляюцца. У іх чуць-чуць трэба і ўсё. А мая падруга аднаго разу і кажа: “Пані Броха, дайце мацы хоць з чалавечаскую кроўю”* (жанчына, 1927, 2011).

Зрэдку ў якасці прычыны фігуравала “блізкасць” немцаў і жыдоў, якія нібыта мелі падобную мову і паходжанне:

– *Іх жэ мову знаюць. [ … ] Іх мова блізка* (жанчына, 1910, 2006).

Гэтая “блізкасць” у перакананні жыхароў беларускіх вёсак вяла да вострай канкурэнцыі паміж немцамі і жыдамі. Менавіта таму, паводле аповеду адной з рэспандэнтак, шлях Гітлера да панавання над светам пачынаўся якраз з забойства жыдоў.

– *Каб самім заўладзець, каб самім заняць міравое господство. Як сёння Амэрiка, як Польша. Не важно, што жыды бедныя. Важно, што разныя нацыя. І немцы баяліся, я так думаю, то маё мненіе [ … ] што еслі много нацый, много дажэ вероісповедаваній, то як рыба, лебядзь, шчука і рак – каждый у сваю старану цягне. Эта ж мешае. А еслі вот все адно – тады нешта будзе. Вот Гітлер гэтага і хацеў, я так думаю, і многія так рассуждалі* (жанчына, 1925, 2011).

Адзін з рэспандэнтаў, чалавек з вышэйшай адукацыяй, які падчас вайны працаваў перакладчыкам у нямецкай гаспадарчай арганізацыі, у сваім адказе на пытанне пра прычыны Халакосту прыгадаў антысемітызм у міжваеннай Польшчы, нацысцкую прапаганду і асаблівасці... беларускай ментальнасці:

– *Людзі развважалі: яны ж укрыжавалі Хрыста [ … ] Гэта рэзультат таго, што ішла страшная антысеміцкая прапаганда, прадаваліся календары, кніжкі, дзе пісалі, што ты не купляй у жыда, страшны антысемітызм... Асабліва ў 38-м і 39-м годзе. Таксама была прапаганда, што яны (і цыганы таксама) шкодзяць руху наперад... Немцы ж мелі ўсю Еўропу. Заставаўся толькі Сталінград [ … ] Меркавалася, што немцы будуюць “новую Еўропу”. Так і казалі: “новая Еўропа”, “новы парадак”. А ўсё, што яму перашкаджала, павінна быць знішчанае [ … ]*

*Думаю, што таксама была зайздрасць, бо жыды заўсёды жылі лепей. А чаму жылі лепей?.. Бацька Ізі працаваў у лесе, правяраў якасць дрэвесіны [ … ] Пасада невелькая [ … ] Але да яго прыходзіў цырыльнік. Жыд не прап’е, жылі эканомна [ … ] Умее ўгаварыць, каб ты з крамы не выйшоў без пакупкі... І ў канцы канцоў ён*

*збірае гэтыя грошы... А людзі гэтага не бачаць. Нараджаецца велькая зайздрасць [ ... ] На жаль, наш народ такі... Вось калі вывозілі ці раскулачвалі людзей, ты думаеш, што суседзі шкадавалі? Не, халера з ім! Ён жа мне грошы не пазычыў, то і правільна, што забіраюць...* (мужчына, 1928, 2013).

Даволі шырокі кантэкст інтэрв'ю дазволіў весці гаворку пра мясцовых саўдзельнікаў злачынстваў. Звычайна пра гэта гавораць неахвотна. Напрыклад, вуснагістарычныя даследаванні берасцейскіх даследчыкаў Яўгена Разэнблата і Ірыны Яленскай, якіх цікавілі славянска-жыдоўскія дачыненні ў перыяд 1921–1953 гг., выявілі менавіта нежаданне казаць пра "сваіх"[10].

У нашых даследаваннях пра "сваіх" казалі. Пры гэтым прыгадвалі паліцыю (напрыклад, у Слоніме або ў вёсцы пад Радашковічамі, дзе людзі ўспаміналі мясцовага паліцэйскага, які забіваў жыдоў з помсты за сваякоў, рэпрэсаваных Саветамі ў 1937 г.), солтысаў і нават партызанаў.

«Свае» як забойцы даволі часта фігуравалі ў вусных успамінах жыхароў беларускіх вёсак. Часам менавіта яны, а не нямецкія акупанты, выступалі як галоўнае зло апошняй вайны. Магчыма, гэта тлумачыцца тым, што на «сваіх» найбольш спадзяваліся, а спадзяванні часцяком аказваліся марнымі. Падчас вайны жыхары Беларусі мелі вялікія праблемы са звыклай чалавечай салідарнасцю. Панаваў чалавек са зброяй, які не меў літасці нават да «сваіх».

У якасці забойцаў фігуравалі таксама мясцовыя партызаны. Так, былы партызан, распавядаючы, як асабіста выратаваў з гета ў мястэчку Быцень пад Слонімам (зараз Івацэвіцкі раён Берасцейскай вобл.) жыдоўскую сям'ю, з крыўдай прызнаваўся, што яму за гэта нічога не заплацілі. Пасля заўвагі, што выратаваныя, магчыма, пазней усё ж загінулі, прызнаўся, што быў сведкам іх смерці:

*– Я знаю, дзе яны пагіблі! Толькі гаварыць пра гэта как-та… Стыдна… Іх патапілі парцізаны… Быў у нас такой камандзір Гусеў. Адзін, а патом Бабкоў, второй… Бабков лётчык быў. Палучілі указаніе ад генерала Капусты – сабраць ад яўрэяў дзеньгі на танкавую калону. Патаму што ў іх у каждага есць золата… хоць немнога, но есть… Сказаў, не дзеньгі, а сняць всё золата. Ну, яны пробавалі ў нашым атрадзе «Савецкая Беларусь», у «Чапаева»: «Прадстаўляйце золата». – Не сдают [ … ]*

*А тут панадабілася выгнаць літоўцаў, за Піронімам есць такая местнасць – Савічы. Там ізвястковы завод быў. І вот на Савічы пашлі ваяваць нашы. Партызанаў паслалі… А каго напярод? Яўрэяў напярод! Гэтыя два камандзіры – Бабкоў і Гусеў: Яўрэяў напярод!.. Усіх. А яны ж ні плаваць, ні страляць… Мужчыны яшчэ кое-как. А там жа жэншчыны, дзеці… Іх тады многа пагібла.*

*Шчара шырокая там. А Шчару нада перахадзіць, каб патом наступаць. Тыя там страляюць, а тут нада ісці…* (мужчына, 1911, 2006).

Тое ж «золата» або багацце часта фігуравала ва ўспамінах як прычына таго, што жыдам спачатку дапамагалі, а потым забівалі або выдавалі немцам.

– *Золата ж можна ўзяць, а яго забіць. А нашто яго хаваць?! І гэткіх было. Усяк было* (жанчына, 1924, 2007);

– *Выдаваў солтыс [ … ] Адна сям'я трымала мельніцу. Жыды багатыя былі. Як забілі багатага, то пабраў падушкі яго [забойца]* (жанчына, 1916, 2009);

– *По хатах оні жылі [ … ] І іх зогналі на одну вуліцу [ … ] І іх обгородзілі дротом такім. А далей побралі, іх побілі. То я не ведаю, казалі в Леніне, шо там озеро е... То там вельмо золото богато кідалі туды [ … ] у тэе озеро. То гэто казалі ленінцы* (жанчына, 1933, 2012).

Але значна часцей прыгадваліся эпізоды бескарыслівай дапамогі або жадання дапамагчы. Пры гэтым адсутнічаў нават намёк на грошы ці нейкую іншую форму ўдзячнасці з боку жыдоў-уцекачоў. Таксама падкрэслівалася небяспека гэтай дапамогі і прыгадваліся выпадкі пакаранняў тых, хто ратаваў. Усё ж такі чалавечае спачуванне часта аказвалася мацнейшым нават за страх смерці.

– *Жалелі людзі іх. Слонімскіх евреев каждый знал, і оні всех зналі [ … ] Он не плакал. Только говоріл: "Нікого нету, нікого нету". Нех Пані выбачы. Маёй радзіны нема* (мужчына, 1930, 2009);

– *А ў мяне быў хлопчык, вон усё па-суседску да хлопчыка нашага хадзіў [ … ] А я прышла ў сарай ды клічу: "Шолом, Шолом, Шолом". Думала, мо дзе захаваўся... Няма нідзе [ … ] І яго забілы [ … ] А я того Шолома шукала, шукала. Думала, дам адзёжу ды сховаю... Няма яго* (жанчына, 1916, 2012).

Наогул, паводле статыстыкі Інстытута «Яд ва-Шэм», толькі ва Усходняй Беларусі (даваеннай БССР) «праведнікамі свету» стала болей за 700 чал.[11]

Сабраны матэрыял патрабуе грунтоўнага вывучэння з удзелам прадстаўнікоў розных гуманітарных дысцыплін. А пакуль можна адзначыць відавочнае імкненне нашых суразмоўцаў дыстанцыявацца ад трагедыі Халакосту, апраўдаць уласны нейтралітэт ці бесстароннасць. У гэтай пазіцыі няма пакаяння, затое ёсць жаданне перанесці віну на самую ахвяру.

Часта аповедам пра Халакост, асабліва запісаным на тэрыторыі Заходняй Беларусі, якая да Другой сусветнай вайны знаходзілася ў складзе Польшчы, не хапала шчырасці. Была заўважальнай змена інтанацыі. Некаторыя рэспандэнты спрабавалі пазбегнуць гэтай тэмы, адказваючы пытаннем на пытанне або заяўляючы: *"Вы ж самі ўсё ведаеце… "* Іншыя спасылаліся на пачутае ў размовах і г. д.

Успаміны жыхароў Усходняй Беларусі, даваеннай БССР, на першы погляд былі цалкам пазбаўленыя налёту антысемітызму. Рэспандэнты карысталіся словам "яўрэі", пазбягаючы тэрміна "жыды", які ў гэтай частцы Беларусі, таксама як і ў расійскай культурнай прасторы, успрымаецца як знявага. Аднак разважанні пра прычыны Халакосту амаль не адрозніваліся ад пачутага ў Заходняй Беларусі.

Вусныя ўспаміны пра Халакост выявілі моц стэрэатыпаў, сярод якіх – вобраз жыда як пасіўнай ахвяры, не здольнай на супраціў, баязлівасць, міфічнае жыдоўскае "золата", меркаваная схільнасць жыдоў да падману ды інш. Гэтыя стэрэатыпы і сёння моцна ўплываюць на масавую свядомасць.

Відавочна, што тэма Халакосту вельмі важная для разумення беларусамі саміх сябе. Між іншым яна ставіць пад сумнеў міф славутай "беларускай талерантнасці" і прымушае яшчэ раз задумацца пра ўласную адказнасць за мінуўшчыну, у т. л. часоў нямецкай акупацыі Беларусі.

## *Заўвагі*

1 Кісь О. Усна історія: становлення, проблематика, методологічні засади // Украіна модэрна. Ч. 11. 2007. С. 13–14; Kurkowska-Budzan M. Informator, świadek historii, narrator – kilka wątków epistemologicznych i etycznych *Oral History* // Wrocławski rocznik historii mówionej. Rocznik 1. 2011. S. 10–11.

2 У Беларусі важным цэнтрам такіх даследаванняў стаў Беларускі архіў вуснай гісторыі (http://www.nashapamiac.org), створаны ў 2011 г. па ініцыятыве гісторыка Ірыны Кашталян.

3 Гуревич Арон. История в человеческом измерении. Размышления медиевиста // http://magazines.russ.ru/nlo/2005/75/gu4.html. Рэжым доступу 19.02.2014 г.

4 Thompson Paul. The Voice of the Past. Oxford: Uniwersuty Press, 1978.

5 Тош Джон. Стремление к истине. Москва: Весь мир, 2000. С. 267

6 Цыт. па: Sebastian Wasiuta, Mówienie (o) historii // Historia mówiona w świetle etnolingwistyki. Red. Stanisława Niebrzygowska-Bartmińska, Sebastian Wasiuta. Lublin: Polihymnia, 2008. S. 111.

7 Портелли А. Особенности устной истории // Хрестоматия по устной истории. Сост. М.В.Лоскутова, Санкт-Петербург: Европейский университет, 2003. С. 40.

8 Польскі даследчык П. Філіпкоўскі гаворыць пра "сацыялагічную перспектыву" (Historia mówiona i wojna // http://www.staff.amu.edu.pl/~ewa/Filipkowski,20Histo riamowionaiwojna.pdf. Рэжым доступу 10.09.2013 г.

9 Усе цытаты падаюцца з захаваннем асаблівасцяў мясцовай гаворкі. Варта адзначыць, што беларускамоўныя рэспандэнты з Заходняй Беларусі звычайна карысталіся словам "жыд", якое ў беларускай мове не мае адмоўнай канатацыі. Гэтым жа абумоўлена і аўтарскае ўжыванне гэтага слова. Адмоўная канатацыя слова "жыд", характэрная для рускай мовы і культуры, па меры працэсаў русіфікацыі пашыралася ва Усходняй

Беларусі. Мясцовыя рэспандэнты звычайна ўжывалі слова “яўрэі”. Поўныя запісы інтэрв’ю захоўваюцца на сайце Беларускага архіва вуснай гісторыі. Гл.: http://www.nashapamiac.org/archive/home.

10 Розенблат Е., Еленская И. Память о Холокосте в западных областях Белоруссии // История – миф – фольклор в еврейской и славянской культурной традиции. Сборник статей. Москва, 2009.

11 Музей истории и культуры евреев Беларуси (http://www.meod.by/ru/organizacii-meoda/muzej-istorii.html). Рэжым доступу 10.10.2015.